

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 3 (337) 28 СТУДЗЕНЯ 1998 г.**

## ШАНОЎНЫЯ РУПЛІЎЦЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Рэдакцыя атрымала акт спісання газеты "Наша слова" за снежань 1997 года. Нагадаем, што ў снежні газета ішла ў шапікі "Саюздруку" толькі Гарадзенскай вобласці, і мы маем магчымасць даць інфармацыю пра тое, як куплялася наша газета па раёнах:

| Горад (раён) | Атрымана | Спісана |
|---|---|---|
| Гародня | 600 | 494 |
| Бераставіца | 40 | 40 |
| Ваўкавыск | 200 | 242 |
| Воранава | 40 | 37 |
| Дзятлава | 40 | 37 |
| Зэльва | 40 | 57 |
| Іўе | 40 | 40 |
| Карэлічы | 40 | 40 |
| Ліда | 300 | 367 |
| Масты | 40 | 34 |
| Навагрудак | 200 | 195 |
| Ашмяны | 40 | 24 |
| Свіслач | 40 | 39 |
| Слонім | 200 | 151 |
| Смаргонь | 200 | 196 |
| Шчучын | 100 | 80 |

Вы бачыце некаторыя абсурднасці, калі спісана больш, чым паступіла, але ў гэтых гарадах, хутчэй за ўсё, заставаліся не спісаныя асобнікі з мінулага месца. Увогуле за два месяцы ў Гарадзенскую вобласць было пастаўлена 4400 асобнікаў газеты "Наша слова" . З іх спісана 3174, прададзена 1226, што складае 27 працэнтаў. Фактычна газету купляла 300 чалавек па ўсёй вобласці. Вось наш патэнцыял. Вось нашыя сілы.

Калі параўнаць гэтыя звесткі са звесткамі пра падпіску надрукаванымі ў мінулым нумары то малюнак становіцца яшчэ больш змрочным. У большасці раёнаў газету чытаюць адзінкі, а на радзіме Зянона Пазняка ў Івейскім раёне ні адзін чалавек не выпісаў газету "Наша слова" і ні адзін не купіў. Падобна на тое, што на Івейшчыне і быў усяго адзін беларус - Зянон, але, як кажуць, затое сапраўдны.

Мы зменшылі пастаўку газеты на Гарадзенскую вобласць амаль у два разы, але гэтым мы толькі зменшылі нашыя страты. Каб павялічыць колькасць чытачоў , патрэбныя намаганні ўсіх арганізацый ТБМ. Мы просім арганізацыі ТБМ устанавіць кантакты з аддзяленнямі "Саюздруку" сваіх раёнаў, кантраляваць працэс спісання і, па магчымасці, забіраць газету, якая не разышлася для наступнай перадачы ў школы, садкі, проста сябрам ТБМ. У большасці раёнаў гэта магчыма.

З гэтага нумара мы паднялі наклад да 3,5 тысяч і ідзём на ўсю краіну за выключэннем Менскай вобласці, з якой пакуль не заключылі дамовы. Мы даём газету ў кожны раён, нават у тыя, дзе яе заведама не купяць. Мы працуем над пытаннем павышэння "прадажных" уласцівасцяў газеты, але гэта справа не аднаго дня. Такая на сёння сітуацыя, шаноўныя сябры.

Але газета выходзіць будзе, бо, калі яна, нават, патрэбна толькі тым шасці сотням беларусаў, што падпісаліся і тым некалькі сотням, што купляюць, то газета павінна быць. З ёю Беларушчыны, хоць на кавалачак, але болей.

## Сойм партыі БНФ

17 студзеня адбыўся сойм Партыі БНФ.Сойм разгледзеў пытанне пра стаўленне Партыі БНФ да магчымых выбараў органаў кіравання. Абазваўшы ўсе магчымыя выбары палітычнымі спектаклямі, сойм Партыі БНФ пастанавіў, што "Партыя БНФ не будзе ўдзельнічаць у выбарчых інсцэніроўках"ні ў якія палаты і выступае і будзе выступаць за адмену прэзідэнцтва, за канстытуяванне Беларусі, як парламенцкай Рэспублікі.

## Сойм БНФ "Адраджэньне"

17 студзеня адбыўся чарговы сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Сойм разгледзеў пытанні пра арганізацыю дзейнасці Фронту ў сёняшніх умовах і прыняў шэраг дакументаў, што рэгламентуюць працу Фронту.

Сойм практычна праігнараваў праблему 32 мільёнаў і асноўную ўвагу засяродзіў на арганізацыі працы структураў Фронту. Так, у прыватнасці, кожнай раённай радзе БНФ пастаўлена задача мець свой друкаваны орган. Праўда ,пры гэтым кіраўніцтва Фронту, мабыць, забыла паведаміць , калі з'явіцца цэнтральная газета БНФ.

# СЕРАБРАНКА

## *Свята для дзяцей , што жывуць у Серабранцы*

Усе памятаюць, што лепшымі ўспамінамі маленства з'яўляюцца навагодняя ёлка, дзед Мароз і навагоднія падарункі.

Таму і вырашыў кардынацыйны камітэт "Хартыі -97", а таксама дэмакратычная партыя і рухі Ленінскага раёна г. Менска ( а гэта БНФ, БСДГ, Партыя здаровага сэнсу, АГП і ТБМ) зрабіць невялічкае свята для дзяцей 1-5 класаў 153 школы з Серабранкі, якія паходзяць з малазабяспечаных ці няпоўных сямей. На ахвяраванні, сабраныя сябрамі вышэйзгаданных арганізацый былі закуплены цукеркі для падарункаў і святочныя паштоўкі. Сакратарыят ТБМ выдзяліў для гэтай мэты 40 асобнікаў апошняй кнігі Ніла Гілевіча "Любоў Прасветная", а рэспубліканскі цэнтр досугу інвалідаў бясплатна прадставіў сваё памяшканне для правядзення навагодняга ранішніка.

2 студзеня а 13 гадзіне ў будынак "Інвацэнтра", што на плошчы Мяснікова, разам са сваімі настаўнікамі і бацькамі прыехалі хлопчыкі і дзяўчынкі з Серабранкі. Тут іх цёпла сустрэлі артысты тэатральна-відовішчнага прадпрыемства "Кураж" разам са сваім кіраўніком Таццянай Шляхцінай. Больш гадзіны дзеці спявалі, расказвалі вершыкі на расейскай, беларускай і нават ангельскай мовах, адгадвалі загадкі, вадзілі карагоды вакол ёлкі разам са Снягурачкай і Дзедам Марозам. Напрыканцы свята кожны яго маленькі ўдзельнік беражліва перагортваў старонкі кнігі народнага паэта Беларусі. Няхай прачытаўшы яе малады жыхар Серабранкі далучыцца да чароўнага свету беларускай мовы і паэзіі. Бо без мовы няма народа, няма нацыі, няма і дзяржавы!

**Першы намеснік Рэспубліканскай Рады ТБМ**
**Алег Трусаў**

## *З падарункамі ў беларускі клас*

Прыкладна за месяц да Новага года Свіслацкая Рада ТБМ Ленінскага раёна г.Менска прыняла змерkаванне зрабіць падарункі для маленькіх менчукоў. Тым дзецям з няпоўных сем'яў, якія вучацца ў беларускіх школах на ахвяраванні сяброў ТБМ купілі падарункі: ласункі, розныя цукеркі, шакаладкі, зефір і інш.. Усё ў прыгожых, каляровых, святочных пушках. Акрамя таго, дзецям падаравалі маленькія размаляваныя кніжкі. Раздаваць падарункі вельмі прыемна. Гэтую святочную місію даверылі Урбану Міколу, Сташэўскаму Яўгену, Семчынку Алесю, Ракаву Івану, Суславу Міколу і Галай Аркадзю. Гаспадары нас сустракалі вельмі цёпла, прапанавалі частавацца. Маленькія дзеткі саромеліся, аднак некаторыя з іх для нас чыталі на памяць беларускія вершыкі. Усяго раздалі 32 падарункі ў Серабранцы г. Менска. Я лічу, што гэта толькі пачатак. Неабходна падтрымліваць сувязь з бацькамі, чые дзеці вучацца у беларускіх школах. Ім цяжка выстаяць ва ўмовах ашалелай русіфікацыі. Хачу спадзявацца, што ўвага да беларускіх класаў будзе большай і не толькі з боку сяброў ТБМ, але і ад іншых дэмакратычных арганізацый.

**Палюхевіч Кацярына (па просьбе бацькоў)**




## Рэгіёны за "Хартыю - 97"

Напярэдадні Новага года ў Маладэчне, горадзе, які здаўна вядомы сваімі дэмакратычнымі традыцыямі, сябры БСДГ, "Маладой Грамады", Партыі здаровага сэнсу, ТБМ і іншых дэмакратычных партый і рухаў утварылі рэгіянальны камітэт у падтрымку "Хартыі-97". Галоўная мэта гэтай грамадскай ініцыятывы - усталяванне кантактаў з іншымі рэгіянальнымі структурамі "Хартыі-97", збор подпісаў пад тэкстам "Хартыі" і стварэнне незалежнай, рэгіянальнай дэмакратычнай газеты. Каардынатарам маладзечанскай структуры "Хартыі-97" абраны Сяргей Каток.

12 студзеня аналагічны камітэт утвораны ў Лідзе. У камітэт увайшлі сябры ўсіх дэмакратычных арганізацый Ліды і Лідскага раёна.

Утварэнне такога камітэта рыхтуецца ў Мастах. Падобна, пачынае развівацца новы масавы грамадскі рух.

## Весткі з сядзібы ТБМ

*13 студзеня адбылося чарговае паседжанне сакратарыяту Рэспубліканскай рады ТБМ імя Францішка Скарыны, на якім разглядаліся надзённыя пытанні арганізацыі.*

*У сувязі з тым, што аднавіўся выпуск газеты ТБМ "Наша слова", прынята змеркаванне папоўніць шэрагі Беларускай асацыяцыі журналістаў сябрамі рэдкалегіі "Нашага слова".*

*У сядзібе ТБМ устаноўлена лінія Internet, дзякуючы якой можна будзе актыўней далучацца да міжнароднай інфармацыйнай прасторы.*

*Ідзе падпіска на газету "Наша слова". На жаль, на сёння падпісантаў трохі больш як 600. Сакратарыят распрацаваў шэраг мераў па заахвочванні людзей мець у паштовай скрынцы "Н.С."*

*У сакавіку 1998 года адбудзецца чарговае паседжанне Рэспубліканскай Рады, на якім мяркуецца разглядзець асноўныя праблемы беларускамоўнай адукацыі ў ВНУ. Зацверджаны тэкст звароту да рэктараў ВНУ Беларусі.*

***У структурах** ТБМ ідзе перарэгістрацыя . Да 1 сакавіка ўсім рэгіянальным Радам неабходна перадаць у Рэспубліканскую Раду інфармацыю аб выніках перарэгістрацыі: колькасны склад Рады, колькасны склад суполак арганізацыі.*

## І ГРАШЫМА, І СЛОВАМІ

Цяжкі час настаў для нашай краіны, не лепшы час перажывае Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Дзяржава спыніла ільготы нашай некамерцыйнай, непалітычнай арганізацыі, што бароніць беларускую мову і беларускасць у Беларусі, з-за адсутнасці дзяржаўных датацый паўгода не выходзіла газета "Наша слова". Дзяржаўныя ўстановы і арганізацыі адмахваюцца ад нашых лістоў з просьбай аб дапамозе, як ад назолы. Адчуваецца, што дзяржава забылася пра нас. Але не забылі нашую арганізацыю жыхары Беларусі.

Мы шчыра дзякуем людзям за грашовыя пераводы, пералічэнні, ахвяраванні. Са старонак для пісьмовага паведамлення пры грашовых пераводах дазнаёмся пра сапраўдны клопат аб нашай краіне, аб роднай мове. Студэнты, пенсіянеры, рабочыя і служачыя, абураныя ганьбаваннем беларускай мовы, усхваляваныя закрыццём беларускіх класаў і школ, прысылаюць свае сціплыя грашовыя пераводы з пажаданнем: "Змагайцеся, шануйце ўсё беларускае!" Так пішуць пенсіянеры Валашкевіч Генадзь Іванавіч, Ядзвіга Іванаўна Котляр. Шпарава Валянціна Іванаўна дзякуе нашаму Таварыству за клопаты аб роднай мове. Цяжка ёй чуць, як з яе гаворкі беларускай часта смяюцца. Жанчына горка падводзіць: "Я вельмі паважаю нашага прэзідэнта, але пакуль ён не загаворыць на беларускай мове, наша мова будзе не ў пашане". Святлана Цішук зычыць Беларусі "Вялікай перамогі над уладным манкурцтвам".

Сям'я Леўчанкаў выказвае жаданне быць разам з Таварыствам " у святой справе Адраджэння,каб матчына мова была".

Моцна ўзрушыў шчыры допіс пенсіянеркі Л.У.Судзілоўскай, грошы для пераводу яна назбірала гандлюючы ўкропам ды пятрушкай, хоча каб яны былі "ўкладам у агульную справу адраджэння роднай Бацькаўшчыны".

Цёплыя словы падтрымкі былі ў той фінансава цяжкі 1997 год, як глыток жывой вады. Радкі Г.С.Пархімчык, якая запэўнівала, што "хмары хутка разыдуцца і зноў заззяе сонца над Беларуссю"дадавалі моцы і ўпартасці, зычэнні ад гарадзенцаў Паўла Сцяцко і супрацоўнікаў кафедры ўніверсітэта "дабра і шчасця", ад К.П. Анісавай - "Здароўя і плёну" выкоўвалі жаданне адпавядаць таму ганароваму статусу "непахісненых рупліўцаў і змагароў за Беларушчыну", якім надзяліў нас, супрацоўнікаў ТБМ, археолаг Георгій Штыхаў.

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны вельмі ўдзячны ўсім Вам, людзі Беларусі, за дабрачынные ахвяраванні, якія ідуць на абарону Беларушчыны, на выратаванне роднай мовы, роднага краю. Аднавілася выданне газеты "Наша слова", пачаў працаваць шапік ТБМ, растуць шэрагі сяброў нашых. Не зацьміць ніхто і не знішчыць нашу багатую спадчыну, наша будучае, пакуль браткі - беларусы думаць, пісаць і вымаўляць будуць : "Жыве Беларусь! Жыве беларуская мова! Не дадзім знікнуць ёй!"

Дапамагай нам усім, Божа!

**Намеснік старшыні ТБМ, адказны сакратар Людміла Дзіцэвіч.**

## АХВЯРАВАННІ НА ТБМ

1. Лагойск. раён. Рада БНФ - 500 тыс.
2. Банкевіч Генадзь -100 тыс.
3. Сяргей Сідор -200 тыс.
4. Уладзімір Голубеў -100 тыс.
5. Сцяпан Ярмоленка - 100 тыс.
6. Рада ТБМ г.Маладэчна - 500 тыс.
7. Хведар Каржаневіч (Манчэсцер, Англія) - 30$
8. Людміла Піскун - 50 тыс.
9. Рада ТБМ г.Столін - 350 тыс.
10. С.В. Купрыянава - 200 тыс.
11. Анатоль Бойка - 120 тыс.
12. Віктар Цігароў - 100 тыс.
13. Віктар Леванюк - 100 тыс.
14. Х.М.Я. - 200 тыс.
15. Галай Аркадзь - 100 тыс.
16. Франц Літвіновіч, палкоўнік расейскіх УС Свярдлоўская вобл. - 50 тыс. рас. руб.

*Слаўныя старонкі гісторыі*

# З удзельнікаў — у пераможцы

Яшчэ на пачатку мінулага навучальнага года гомельскія арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і моладзевая арганізацыя "Грамадскі форум" аб'явілі конкурс складанняў сярод вучняў сярэдніх школаў і ліцэяў Гомеля, на тэму "Грунвальдская бітва".

На прапанову адгукнулася шмат юнакоў і дзяўчат. Тэлефанавалі, цікавіліся, дзе можна дастаць літаратуру на гэтую тэму, бо ў падручніках гэтая падзея асветлена вельмі і вельмі скупа. Такую значную і светлую старонку савецкія ідэолагі стараліся вытруціць з нашай памяці...

Мала таго, да гэтай працы падключыліся нават і бацькі — яны ўзяліся дапамагаць сваім дзецям у пошуках матэрыялу. Шукалі і самі загараліся гэтай тэмай, і яны міжволі далучыліся да Грунвальда. Далучыліся і здзівіліся — дык гэта ж аб'яднаныя войскі з ліцьвінаў (беларусаў) і ўкраінцаў, чэхаў і палякаў, татараў і жамойтаў разграмілі адборныя войскі тэўтонскага ордэна — крыжакоў— і не адно стагоддзе нага чужынца не ступала на нашыя землі...

На конкурс паступіла паўсотні складанняў. Было створана журы на чале з загадчыкам кабінета імя Францішка Скарыны СШ №56 Сяргеем Несцяровічам. Былі адабраныя самыя лепшыя, самыя цікавыя.

І ў суботу, трынаццатага снежня, у тым жа кабінеце сабраліся ўдзельнікі і пераможцы конкурсу, іх бацькі. Была гарбата, даверлівая размова, панаваў творчы і сяброўскі настрой. З цікавасцю ўсе прагледзелі відэафільм "Крыжакі" польскіх кінематаграфістаў (кульмінацыйную частку бітвы). Алеся Максімава, вучаніца 11-га класа СШ № 17, праспявала некалькі песень на словы Генадзя Бураўкіна...

Пераможцамі складанняў аказаліся Алена Купо з СШ -56, Аляксей Паўлавец - СШ-26 і Максім Шастакоў СШ-57. Усе трое атрымалі бібліятэчку з беларускіх кніг і грашовую прэмію. Асобным спецыяльным прызам былі адзначаны Сяргей Клімаў - СШ-10, Зміткок Санько і Андрэй Валнянка — з Гомельскага гарадскога ліцэя № 1. Слава Пыталёў вучыцца ў СШ-9, замест парты ў яго ложак, але і ён узяўся за асвятленне гэтай тэмы. Падарункі і спецыяльную прэмію яму ўручылі дома.

Літаратурны клуб "Спадчына", які створаны пры абласной Радзе ТБМ, адзначыў некалькі складанняў таксама асобным прызам — за высокі ўзровень і літаратурна-публіцыстычнае асвятленне Грунвальдскай бітвы. Яго атрымалі Наташа Захарына - СШ-10, Паўлюк Міцкевіч - СШ-8 і Слава Пыталёў.

Мы і надалей будзем аб'яўляць конкурсы складанняў і рэфератаў. На якія тэмы? Іх шмат. Але яны будуць нетрадыцыйныя, тыя, якія па нейкіх прычынах выпалі з падручнікаў і чытанак, школьных праграмаў, але без якіх не можа быць нашай гісторыі, нашай Дзяржавы. А тое, што да мінуўшчыны моладзь мае вялікую цікавасць, факт бясспрэчны.

Так што, мы ўдзячныя ўдзельнікам і пераможцам, зычым ім усім творчых поспехаў, а будучым удзельнікам нашых конкурсаў - вялікіх і творчых перамог!

**Алесь Карніенка, намеснік старшыні Гомельскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны.**

# Колькі каштуе беларускае слова?

За апошнія 2-3 гады, зноў, у чарговы раз , рэзка ўпала ў цане беларуская нацыянальная ідэя. У чым прычына гэтага? Корань праблемы — у заняпадзе беларускай мовы ў цэлым і ўсіх яе мясцовых дыялектаў - у прыватнасці.

Якую ролю яны маюць у жыцці чалавека? Адказ на гэтае пытанне дае аналіз доследаў маскоўскага вучонага з інстытута квантавай генетыкі Гараева Пятра Пятровіча, аб якіх ён паведаміў у канцы 1995 года на хвалях Радыё-1 Астанкіна ў перадачах "Веру-не веру". Паводле яго звестак, мова з'яўляецца адным з асноўных механізмаў у настройцы арганізма ў рэзананс з навакольным асяроддзем. А як вядома, усё ў сонечнай сістэме знайходзіцца ў рэзанансным стане, што з'яўляецца асновай яго ўстойлівага існавання. Гэта адносіцца і да чалавека, які з'яўляецца часткай гэтай сістэмы.

У сваіх доследах Гараеў паказаў, што малекулы ДНК, у якіх захоўваецца ўся генетычная інфармацыя, маюць імгненную і адназначную рэзанасную рэакцыю на родную мову. Аднак на гэтую частку яго работы, вучоныя і спецыялісты не звярнулі ўвагі. А шкада!

Калі ўзяць гэты раздзел за аснову, то роля мовы з абстрактнага азначэння перайходзіць у разрад аднаго з галоўных паказчыкаў у здароўі чалавека!

Таму, каб людзі былі здаровымі, трэба вельмі старанна захоўваць усе моўныя дыялекты на іх родных месцах, як і мову родную ў цэлым. Кожнае слова, напісанае нашымі пісьменнікамі на роднай мове, павінна быць прачытана (і не раз), і разглядацца, напрыклад, як дрэва ў лесе,якое дае карысць усяму навакольнаму, пакуль жыве. І тады з'явіцца новая цана роднаму слову — не рынкавая, а гістарычная і зусім рэальная.

Яе можна будзе вызначыць, вядучы статыстыку стану здароўя людзей у залежнасці ад пастаяннага пражывання на месцы нараджэння з роднаю моваю. Думаю, што гэта будзе пацверджана вельмі належным чынам, і гэта стане рэальнай асновай для Беларускай нацыянальнай ідэі, а беларуская мова на Беларусі стане натуральна галоўнай, панавальнай!

**Валянцін Кляпко**
**г. Бабруйск**

# У госці да паэтэсы

5 студзеня сябры гуртка беларусазнаўства Лідскага завода харчканцэнтратаў наведалі Гародню. Адным з асноўных пунктаў маршруту быў літаратурны музей Максіма Багдановіча, дзе маленькія лідзяне сустрэліся з вядомай беларускай паэтэсай Данутай Бічэль, дарэчы, ураджэнкай Лідчыны.

Узначальвае гэты гурток старшыня Лідскай гарадской Рады ТБМ Лявон Анацка.

# "ПРАВА НА ВОЛЮ"

Так называецца новы бюлетэнь, які пабачыў свет у Менску ў студзені гэтага года. Бюлетэнь выдаецца Камітэтам у абарону правоў чалавека на Беларусі і цалкам прысвечаны гэтай праблематыцы. У прыватнасці бюлетэнь працэс пабудовы грамадзянскай супольнасці на аснове каштоўнасці правоў чалавека. Таму мы лічым недапушчальнай сітуацыю ў Беларусі, бо там пастаянна парушаецца прынцып улады закона. Груба абмяжоўваецца свабода слова,

ПРАВА НА ВОЛЮ

№1 Студзень 1998

Бюлетэнь Камітэта ў абарону правоў чалавека ў Беларусі "Вясна-96"

ТОЛЬКІ ТАК ПЕРАМОЖАМ!

БЕЛАРУСЬ ЗА КРАТАМІ

(Заканчэнне на стар. 3)

змяшчае рэзалюцыю па Беларусі, прынятую на семінары "Выкананне Еўрапейскай Канвенцыі ў абарону правоў чалавека і фундаментальных свабодаў у краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, якія з'яўляюцца новымі сябрамі Рады Еўропы", што прайшоў у Страсбургу 28 лістапада 1997 года. У рэзалюцыі ў прыватнасці гаворыцца:"У сучаснай Еўропе новыя дэмакратыі перажываюць пераследуецца апазіцыя, пад сур'ёзнаю пагрозаю знайходзяцца беларускія саматоеснасць, культура і мова, не маюць гарантыі асабістыя свабоды і вольнасці. Мы настойліва заклікаем міжнародную грамадскасць падтрымаць дэмакратыю і правы чалавека ў Беларусі і пастаянна ўздзейнічаць на цяперашняе беларускае кіраўніцтва метадамі, якія адпавядаюць міжнароднаму заканадаўству".

# Шаноўны спадар рэдактар,

*з вытворчых прычын у мяне ўзнікла невялічкая перапіска з Мінсувязі Беларусі. Між іншага ў сваім папярэднім допісе я звярнуў увагу сп.Малочкі на дыскрымінацыю Міністэрствам сувязі беларускай мовы, якая юрыдычна з'яўляецца дзяржаўнай на Беларусі, Учора я атрымаў адказ на мой ліст. Цікавай нам праблеме ў лісце сп. намесніка адведзена 70% радкоў і я яе практычна ўсю цытую ў маім допісе, так што сэнс маіх прэтэнзіяў ясны.*

*Як бачыце, дзяржаўныя чыноўнікі кіруюцца не юрыдычнымі нормамі, а нейкай "мэтазгоднасцю", што практычна азначае грубую дыскрымінацыю нашай мовы.*

*Я раю ўсім патрыётам і нацыяналістам неадкладна ўзнімаць гвалт з-за найменшай дыскрымінацыі нашай мовы на самай найдрабнейшай паперцы.Не саромейцеся абазваць чыноўніка непісьменным і смярдзючым расістам - гэта будзе чыстая праўда. Патрабуйце выканання згаданнага арт.17 пакуль што дэ факта дзейнай Канстытуцыі. І хоць дзяржава ў дачыненні да беларусаў сапраўды расісцкая, але ў нас не ПАР часоў Фервурда і Боты.*

***Мікола Бусел***
***в. Дуброва, Светлагорскі р-н.***

**Спадару М. П. Малочку, намесніку Міністра сувязі Рэспублікі Беларусь.**

## Шаноўны спадар Малочка,

дзякую Вам за адказ і за адэкватную рэакцыю на маю маленькую ці то просьбу, ці то прапанову.

Тым не менш, не магу пагадзіцца з меркаваннем, што ў сістэме Мінсувязі не існуе дыскрымінацыі беларускай мовы. Магчыма гэтае сцверджанне Вам падаецца нечаканным і дзіўным, але дыскрымінацыя - факт.

Вы пішаце: "Згодна з арт. 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь беларуская і руская мовы з'яўляюцца дзяржаўнымі. Вытворчая дакументацыя прадпрыемстваў паштовай сувязі, у тым ліку і квітанцыя ф.1, выконваецца, у асноўным, на рускай мове, таму што гэтая мова даступна грамадзянам усіх нацыянальнасцей, якія пражываюць у рэспубліцы. З улікам вышэйадзначанага, пры адказе на Ваша пісьмо і падрыхтоўцы вытворчай дакументацыі на рускай мове ні ў якім разе не бачыцца дыскрымінацыі беларускай мовы".

Дык вось, у пададзенай цытаце толькі першы сказ мае значэнне для добрага чыноўніка, бо гэта юрыдычная норма і толькі яна мае моц і толькі ёю належыць, пакуль што, кіравацца.

Закон не аперуе азначэннем "даступна грамадзянам усіх нацыянальнасцей".

Фактычна выключнае ўжыванне толькі расейскай мовы задавальняе патрэбы толькі адной, некарэннай, групы насельніцтва-расейскіх мігрантаў.

Прыкра, што ў Мінсувязі яшчэ не выконваюць літары Закона.

Менавіта таму неўжыванне па пазаюрыдычных меркаваннях юрыдычна дзяржаўнай беларускай мовы ёсць наўмысная дыскрымінацыя гэтай мовы.

Нельга забывацца і на тое, што мова не механічны сродак зносін, а этычнае ды эстэтычнае азначэнне і неўжыванне мовы вялікай колькасці людзей спараджае для іх стан дыскамфортнасці і псіхалагічнай дэпрэсіі.

Нажаль, сёння ў Беларусі "можна па-ўсякаму". І калі гэта "можна па -ўсякаму" кажа маларазвітая настаўніца расейскай мовы, то спраўны дзяржаўны службовец цвёрда трымаецца літары ЗАКОНУ.

Зыходзячы з вышэйпаданага я спадзяюся, што ўся масавая дакументацыя Вашага Міністэрства будзе ў самы бліжэйшы час моўна афармлена згодна з існуючым, пакуль што, арт 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Я вітаю Вашу інфармацыю наконт таго, што "ўсім супрацоўнікам Міністэрства сувязі даручана на пісьмы грамадзян, напісаныя на беларускай мове, рыхтаваць адказы толькі на беларускай мове".

**З павагаю, Мікола Бусел.**

# Нашымі скарбамі цікавіцца свет

Лексічны атлас беларускіх народных гаворак у пяці тамах - гэта вынік 20-гадовага вывучэння супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі слоўнікавага складу баларускіх гаворак. Ён уключае каля 2000 лінгвістычных картаў, 200000 слоўнікавых адзінак. Матэрыялам для выдання з'явіліся каля 4000 найменняў прадметаў, прыкметаў, працэсаў матэрыяльнай і духоўнай культуры, якія запісаны ў 150 вёсках рэспублікі. Па кожным найменні або азначэнні складзена асобная карта.

Атлас з'яўляецца практычным дапаможнікам для вырашэння многіх пытанняў нармалізацыі літаратурнай мовы і культуры вуснага маўлення, пры вывучэнні дыялекталогіі, этнаграфіі і гісторыі Рэспублікі Беларусь.

Атлас разлічаны на мovaведаў, гісторыкаў, этнографаў, краязнаўцаў і усіх, хто цікавіцца культурай Беларусі.

Кожны том прысвечаны асобнай тэме: т.1 - "Раслінны і жывёльны свет", т.2. - "Сельская гаспадарка", т.3. - "Чалавек", т.4. - "Побыт", т.5. - "Семантыка. Словаўтварэнне. Націск".

На картах атласа маецца шмат разнастайнага матэрыялу, які будзе выкарыстаны пры даследаванні самых розных пытанняў нашай гісторыі.

Так, напрыклад, выяўленае лінейнае (ланцужковае) пашырэнне лексем (частка балцкага паходжання) тлучачыцца ( і сведчыць) міграцыяй насельніцтва з тэрыторыі Літвы і Латвіі ў Х1Х ст. (пасля адмены прыгону з-за зямельнага голаду на Беларусь з таннай цаной на зямлю і інш.). У пагранічны з Літвой часцей можна сустрэць геаграфічныя назвы з двума каранямі тыпу Відулаўкі (назва поля ў в.Гудзяняты Івейскага раёна Гарадзенскай вобласці, якая, як і ў літоўскай мове складаецца з двух слоў vidulau-kiai ( vidus - сярэдзіна + laukas - поле). Двухкампанентны склад слоў не характэрны для беларускай мовы.

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ

ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА імя ЯКУБА КОЛАСА

ЛЕКСІЧНЫ АТЛАС беларускіх народных гаворак

у пяці тамах

Том 4

ПОБЫТ

Узаемадзеянне моў, дыялектаў, пры характарыстыцы зоны ўплываў можна праілюстраваць такой сітуацыяй, жыццём слова гняздо (птушак з травы, моху, пуху,саломы), якое пашырана на Магілёўшчыне. Там жа ўжываецца і традыцыйнае кубло (ямачка у пяску, дзе купаюцца куры, зробленая на пасевах курамі: вымашчаная малымі дзецьмі на ляжанцы).

На Магілёўшчыне захавалася і традыцыйная назва шкло (сьцякло блішчыць, як шкло", "разбілася сьцякло на "шклянкі").

Нядаўна прыслаў ліст у Інстытут мовазнаўства хтосьці Іво Карл з Бразіліі, які піша, што любіць славянскія мовы, але ў яго няма аніякай літаратуры з Беларусі на беларускай мове, выданні на якой ён хацеў бы мець. Сапраўды нашымі скарбамі цікавіцца свет.

**Супрацоўнік Нацыянальнай акдэміі навук Рэспублікі Беларусь**
**Яшкін Іван.**





З успамінаў

# Як у Капылі свята слылі

Раніца 7-га лістапада выдалася ў Капылі добрая. Было ціха, сонечна, цёпла. Само мястэчка было чыста прыбранае. Галоўная плошча, з традыцыйнаю назваю Леніна, была ў абляможоўцы чырвоных сцяжкоў. У вокнах магазінаў, што напаўкола ахоплівалі галоўны пляц мястэчка, струменіліся стужкі тканін чырвонага, зялёнага і блакітнага колераў, акурат сцяг Азербайджана.

Невялікая купка вернікаў у светлую будычыню ўскладвае кволыя гваздзікі да помніка правадыру ўсіх абарванцаў. А сам ён, выцягнуўшы правую руку ў бок раённага Палацу шлюбаў, як бы мовіць: "Верной дорогой идёте, товариши..." І, сапраўды, у тутэйшым раёне самы нізкі па вобласці працэнт скасаваных шлюбаў. Відаць работнікі гэтай установы працуюць тут не за грошы, бо якія сёння грошы...? Але справу сваю робяць якасна! Таму і шлюб тут зусім не брак, а менавіта шлюб.

Праз пэўны час, на Плошчы калгаснікаў, якая колечы звалася Рыначнай, бы пралескі з пад снегу, узнікаюць крамы і буданчыкі. Адчыняюцца шапікі. Адкрываецца кірмаш. Пачынаецца гандаль. Гандлююць усім, ад абутку і бульбы да яблыкаў і "Графа Чапскага" (назва піва). Каля будынка міліцы грмадскай бяспекі стаіць грузавік. Прадаюць парсючкоў по 50 тыс. за кіло жывой вагі. Парсючкі ляжаць смірна, відаць баяцца, каб незнарокам не забралі ў пастарунак. Зрэдку парсючкі рохкаюць у бок міліцыянтаў, што шпацыруюць побач, як бы вітаючы іх: "Здравія жалаем!"

Наўскасяк праз плошчу Леніна рэстаран. Апошні месціцца на падмурку касцёла ХУІІІ ст., зруйнаванага ў 50-я гады. Летась, у чэрвені, калі мястэчка наведаў усенароднаабраны, тутэйшыя каталікі звярнуліся да яго з просьбаю: перадаць ім будынак рэстарана, каб аднавіць на гэтым месцы храм. Бацька пажартаваў: " А зачэм Вам касцёл? Зайдите у рэстаран, вазьмите по 100 грамм и малитесь себе на здароўе!" Весялушка наш тата. Дай Бог яму здароўя!



Герб Капыля

У рэстаране за столікамі мірна сядзяць хлопцы і дзядзькі. Адзін дзядзечка, паклаўшы голаў на пустую талерку, сніць сон пра той час, калі віно і каўбаса былі танейшыя, цукар саладзейшы, а вада макрэйшая. На подлозе ляжыць недаедзены пончык. Відаць, дзядзька змагаўся да апошняга, славячы Вялікі Кастрычнік.

Выходжу з рэстарана. Мушу паблукаць па вуліцах мястэчка. А вось і ўрбатапонімы нашага часу: "ул.им.К.Маркса", "ул.им.Ф.Энгельса", "ул. Пролетарская", "ул. Октябрьская", "Советская", "Комсомольская" і ... "Тупиковая". Назвы лашчаць слых, цешаць сэрца. Быццам на машыне часу, вяртаешся у ружовую пару маленства. Ні табе вуліцы Нясвіжскай, ні табе вуліцы Нова-Свержанскай, ні табе Дубніцкай, ні Татарскай, ні табе вуліцы Юрздыка... ці яшчэ якой там немілагучнай па назве, што былі за памяццю нашых дзядоў.

Гандлдёвыя рады, якія чамусці ахрысцілі тут у Траецкае прадмесце, хаця ні Траецкай гары, ні тым больш прадмесцця тут не было. Прыгожа адноўленыя домікі у стылі ХУІІІ-ХІХ ст.ст. У адным з гэтых дамкоў мясны магазінчык пад назваю: "Забота". Цяжка,праўда, усвядоміць, хто і пра што тут мае клопат. Насупраць магазіна бетонная кампазіцыя з трох постацей шырока крочыць у кірунку да гэтай крамы. Мо па закусь? Гарадскі сквер. У 1942 годзе тут былі закатаваны яўрэі гета. Зараз на гэтым месцы стаіць помнік. Ля помніка лаўкі. Падлеткі, што сядзяць на іх, пацягваюць піва, смаляць цыгарэты, цыркаюць слінаю, успамінаюць разпораз маці, праўда не сваю, але не боскую і пагатоў. Рагочуць, весела, свята.

Непадалёк буданчык. Стапаркі. Кошт 17 тыс.400 . Той сёй, хто пашчыраваў у дэгустацыі змястоўнага, выпісвае цяпер нагамі гусачок. На лаўцы, ля помніка правадыру, пасопвае сівенькі дзядок. Побач стаяць трое міліцыянтаў і лянiва лузгаюць семкі. Відаць чакаюць, пакуль дзед сам прачнецца, каб перадаць затым небараку па акту ягонай бабе.

А свята доўжыцца. Шпарка ідзе гандаль. П'еццa піва, куляюцца стапарыкі, сквірчыць на шампурах традыцыйная "беларуская" страва - шашлык. Па-над плошчаю, у выкананні ансамбля "Балаган" , плывуць гукі "беларускай" народнай песьні: " Меня Петя заманил в чёрную смародину, а я ногі подняла и кричу ...: "За Родину"! А над усім гэтым, высока, па-над ганкам Белага Дома, лунае наш "нацыянальны" зялёна-чырваны сцяг.

Свята- Узнясенскі храм. Захожу. Мясцовы батюшка збіраецца на хаўтуры. Відаць, ён адзін з нямногіх, калі не лічыць міліцыю і работнікаў гандлю, хто сёння робіць сваю работу. Стаўлю свечку. Стаўлю за ўпакой. За упакой свята, якое ў нас на Беларусі не мае ані гістарычных падстаў, ані народных традыцый, свята , якое 80 гадоў таму само паклала пачатак вынішчэнню і гістарычнай памяці і народных традыцый.

Падыходжу да Дому культуры. Стэнд. Газета "Слава працы", раёнка за 6-е лістапада. Рубрыка: " Для чаго чалавек жыве на свеце?" Разважанні старшакласнікаў Ванелевічскай сярэдняй школы. Чытаю. " У наш цяжкі час мы сталі забываць свае карані, сваю родную мову, сваю беларускую культуру. Давайце ж не забываць сваёй мінуўшчыны, бо без ведання сваёй гісторыі мы не зможам пабудаваць будычыні". Наташа Коршук.

Вуснамі дзіцяці, як вядома, гаворыць ісціна. Дык мо праслухаемся , даражэнькія?

**Лявон Калядзінскі, археолаг, сябар Т Б М.**

P.S. А ўвогуле, Капыль найпрыгажэйшая на Меншчыне мясціна, капыляне - найгасціннейшыя людзі, капыльскае начальства, далібог, найдабразычлівейшае з усіх вядомых мне начальнікаў, а капыльскае сала - найсмачнейшае на Беларусі!

## АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

### Госць. Гасцінец.

Слова "госць" - слова вельмі старажытнае, сягае ў каменныя і дакаменныя вякі. Эдэнтычнасць гучання беларускага "госць" і нямецкага "der Gast" гаворыць пра яго даведыйскую даўніну. Абазначала гэтае слова чужога чалавека, які прыйшоў, каб прадаць, абмяняць, купіць нейкі тавар. Тэрмін "госць" існаваў да таго часу пакуль было аднолькава важна і купіць, і прадаць. Але, калі ў людзей з'явіліся значныя лішкі прадуктаў працы і выключна важна стала іх прадаць, то слова госць часткова сышло, а на яго змену прыйшло слова купец, які купляе. Госці у кожную мясцовасць прыязджалі звычайна не лесам, полем ці балотам, а па дарогах і, чым больш людзей па якой дарозе ехала, тым тая дарога была шырэйшая і зручнейшая. Дарогу, па якой ездзілі госці, называлі гасцінцам. Пазней гасцінцы пачалі парадкаваць, падсыпаць, брукаваць, абсаджваць дрэвамі і ўжо такі ўпарадкаваны гасцінец - быў сапраўды гасцінцам, а неўпарадкаваны застаўся дарогай.

Па гасцінцах пачалі ездзіць не толькі купцы, а ўсе іншыя, у тым ліку і сваякі, сябры, знаёмыя, якія прыехаўшы па гасцінцы станавіліся гасцямі і гасцілі ў сваякоў . Сваякі праяўлялі да гасцей гасціннасць г.зн. прыязнь, дабразычлівасць. У Расеі гасцей "угошчали угошчением" (таксама ад слова госць). У Беларусі частавалі пачастункамі ад слова "пачэсны, пачэсна"). Беларускае "частаваць" аналагічнае расейскаму "чествовать", але, калі там "чествование" ішло ў асноўным на словах, то ў нас частавалі за сталамі.

Паштовы гасцінец

Госці прывозілі гасцінцы. Гэта значыць падарункі. Госці ад'язджалі з гасцінцамі, гэта значыць,з падарункамі.

Слова госць распаўсюдзілася на ўсіх хто прызяджаў у горад ці мястэчка. Там для іх будавалі гасцёўні, гасцінныя двары і дамы.

**Станіслаў Суднік.**

### Грамада, грамадзянін, грамадства

Апалагеты антыбеларускасці, калі хочуць прынізіць нашую мову пачынаюць даказваць яе штучнасць, што большасць словаў — гэта скалечаныя расейскія словы, ну ў лепшым выпадку польскія, але толькі не самабытныя беларускія. Такія сцвярджэнні датычаць і словаў "грамадзянін", "грамадзянскі". Маўляў гэта тыя ж "гражданин", "гражданский", толькі папсаваныя. Сапраўды, словы "гражданский" і "грамадзянскі" па гучанні блізкія, але асновы іх зусім розныя. Расейскае "гражданин" — слова штучнае, утворанае ў 18 - м стагоддзі ад слова "горожанин". З беларускім словам "грамадзянін" справа выглядае зусім інакш. Яно мае тысячагадовыя карэнні. Ізноў мы заглядваем у Індыю 2-га тысячагоддзя да нашай эры. На старажытна - індыйскай мове санскрыце слова "грама" абазначае: вёска, натоўп. У гэтым значэнні слова "грамада" дайшло да нас праз тры тысячы гадоў. Грамада, сялянская грамада, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада - гэта такая ж супольнасць людзей як і вёска, як і натоўп , ну, вядома, арганізаваная інакш. Грамада дала грамадства і грамадзяніна, чалавека, які належыць да грамады. Слова грамада пранікла і ў расейскую мову, "громадный", "огромный", але , як бачна, моцна сказілася і па сэнсу, і па гучанні. Такім чынам ні пра якую штучнасць беларускіх словаў ці пра іх паходжанне ад расейскіх гаворкі быць не можа. У аснове яе — пракрыты старажытных арыйскіх плямёнаў крыві і гуда, прашчураў сёняшніх беларусаў.

**Станіслаў Суднік.**

Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 2313000, г. Ліда-2, а/с 7.

Рэдакцыйная рада: Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове. Газета падпісана да друку 27.01.98. г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 273.